# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС*ІНТЭРФАКС*НАРОДНАЯ ГАЗЕТА*

## *Пульс дня*

### Падзеі 3—4 кастрычніка — агульны боль расіян, лічыць Барыс Ельцын

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын звярнуўся да суайчыннікаў з заклікам не забываць трагічныя падзеі апошніх дзён, каб ніколі не дапусціць паўтарэння вар'яцтва.**

Выступаючы па тэлебачанні са зваротам да расіян, ён заклікаў не гаварыць, "што хтосьці перамог, а хтосьці пацярпеў паражэнне. Сёння гэта недарэчныя блюзнерскія словы. Нас усіх апаліла "мертвящее" дыханне братазабойства".

Смуткуючы аб гібелі расіян, кіраўнік дзяржавы сказаў: "Як бы ні адрозніваліся іх перакананні, усе яны — дзеці Расіі. Гэта наша агульная трагедыя, наша агульнае гора".

### Сацыяльныя гарантыі — толькі тым, хто не ўдзельнічаў у бойні

**Прэзідэнт Барыс Ельцын прыняў указ аб нераспаўсюджанні дзяржаўных гарантый сацыяльнай абароны на асобных былых народных дэпутатаў Расійскай Федэрацыі.**

Указ прыняты ў сувязі з тым, што частка іх адмовілася ад мірных спосабаў вырашэння канстытуцыйнага крызісу, аддала перавагу канфрантацыі перад падрыхтоўкай да выбараў у Дзяржаўную думу Федэральнага сходу і тым самым справакавала трагічныя падзеі 3—4 кастрычніка.

### Узнагароды — сумленным і мужным журналістам

**Журналісты, якія ў неверагодна цяжкіх умовах падзей 3—4 кастрычніка збіралі і перадавалі інфармацыю, будуць прадстаўлены да ўзнагарод, сказаў першы віцэ-прэм'ер урада Расійскай Федэрацыі Уладзімір Шумейка.**

Ён выказаў удзячнасць работнікам тэлерадыёкампаній, агенцтваў і выданняў, падкрэсліўшы, што "інфармацыя даражэй за жыццё, таму што яна дапамагае чалавеку прыняць правільнае рашэнне".

Гаворачы аб узнагароджанні работнікаў прэсы, ён заўважыў, што яно не павінна быць масавым і прайсці ў самыя хуткія тэрміны.

### Французскі друк пра расійскую апазіцыю

**Пацярпеўшая паражэнне ў Расіі апазіцыя ўяўляе сабой "дзіўную туманную пляму", у якой зліліся сілы, паталагічна няздольныя змірыцца з гібеллю савецкай імперыі, піша "Фігаро".**

Сярод гэтых апазіцыянераў ёсць такія, што і самі ўжо дакладна не ведаюць, з'яўляюцца яны яшчэ камуністамі ці ўжоператварыліся ў фашыстаў.

"Котидьен де Пари" ўказвае, што з часу распаду СССР узброеныя сілы краіны "ўжо ў другі раз за два гады даказалі, што, нягледзячы на прынятую дактрыну палітычнага нейтралітэту, яны маюць сродкі для таго, каб стаць арбітрам у канфлікце ўладных структур".

### Рух недалучэння за мір на Блізкім Усходзе

**Рух недалучэння вітае ізраільска-палесцінскія дагаворанасці, але патрабуе поўнага выхаду Ізраіля з акупіраваных арабскіх тэрыторый.**

Аб гэтым гаворыцца ў распаўсюджаным у штаб-кватэры ААН камюніке па выніках сустрэчы міністраў замежных спраў і кіраўнікоў дэлегацый краін-удзельніц недалучэння, якая адбылася ў Нью-Йорку, што прыехалі на 48-ю сесію Генеральнай Асамблеі ААН.

### Аліеў атрымаў упэўненую перамогу

**Гейдар Аліеў атрымаў упэўненую перамогу на прэзідэнцкіх выбарах у Азербайджане.**

Усяго ў спісы былі ўключаны 4 млн. 62 тысячы грамадзян. За Аліева прагаласавалі 3.919.923 выбаршчыкі (98,8 працэнта ад галасаваўшых), супраць — 40.298 чалавек. Гэтыя даныя абнародаваў сёння Цэнтрвыбаркам.

Два іншыя дэпутаты — дацэнт Азербайджанскага педагагічнага інстытута рускай мовы і літаратуры Керар Абілаў і прадпрымальнік Закір Тагіеў. За першага прагаласавала 0,3 працэнта выбаршчыкаў, за другога — 0,5 працэнта.

### "Блакітныя каскі" паедуць у Руанду

**Савет Бяспекі ААН прыняў рашэнне правесці аперацыю па падтрыманню міру ў Руандзе.**

Аб гэтым гаворыцца ў рэзалюцыі СБ, аднагалосна прынятай на яго пасяджэнні. Савет Бяспекі, адзначаецца ў дакуменце, пастанаўляе правесці аперацыю па падтрыманню міру пад назвай "Місія ААН па аказанню дапамогі Руандзе".

### Сіанук на прастоле. Мір і бяспека адноўлены?

**Савет Бяспекі ААН, павіншаваўшы Нарадома Сіанука з уступленнем на прастол караля Камбоджы, заявіў, што мандат сіл ААН у гэтай краіне паспяхова завершаны.**

Пра гэта гаворыцца ў заяве, з якой выступіў старшыня СБ Ранальда Мота Сардэнберг (Бразілія) на пасяджэнні Савета. Ён падкрэсліў важнасць пастаяннай падтрымкі з боку міжнароднай супольнасці "працэсу ўмацавання міру і дэмакратыі" ў Камбоджы.

## *Заява кітайскага ўрада*

### Кітай бомбу ўзарваў, але выступае за ўсеагульную забарону і поўнае знішчэнне ядзернай зброі

**Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі пераслала ў Белінфарм заяву ўрада КНР у сувязі з выпрабаваннем ядзернай зброі, якое адбылося 5 кастрычніка гэтага года.**

У заяве гаворыцца, што Кітай мае нязначную колькасць ядзернай зброі і асвойвае яе выключна ў мэтах самаабароны. З моманту авалодання гэтым відам узбраенняў Кітай з усёй сур'ёзнасцю заявіў, што ніколі і ні пры якіх акалічнасцях не прыменіць яе першым, акрамя таго, узяў на сябе абавязацельства не прымяняць яе супраць бяз'ядзерных дзяржаў і бяз'ядзерных зон.

Кітай нязменна выступае за ўсеагульную забарону і поўнае знішчэнне ядзернай зброі, таму праяўляе вялікую стрыманасць у адносінах да ядзерных выпрабаванняў. З поўным разуменнем адносячыся да жадання шматлікіх бяз'ядзерных дзяржаў заключыць дагавор аб поўнай забароне ядзерных выпрабаванняў, КНР выступае за хутчэйшае правядзенне перагавораў па гэтаму дагавору і гатова прымаць у перагаворах актыўны ўдзел з такім разлікам, каб адпаведны дакумент быў падпісаны не пазней 1996 года.

Разам з тым Кітай лічыць, што больш эфектыўным крокам на шляху нераспаўсюджання ядзернай зброі было б абавязацельства ядзерных краін не прымяняць гэту зброю, таму настойліва прапануе правесці перагаворы і заключыць міжнародную канвенцыю аб безагаворачным непрымяненні ядзернай зброі першым і аб устрыманні ад яе прымянення ў адносінах да няядзерных дзяржаў і бяз'ядзерных зон, гаворыцца ў заяве. Кітайскі ўрад лічыць, што значэнне ўмоўнага мараторыя на ядзерныя выпрабаванні вельмі абмежавана без адмовы ад палітыкі ядзернага запалохвання і без узяцця абавязацельстваў па ўсеагульнай забароне і поўнаму знішчэнню ядзернай зброі. Дзяржавы, якія маюць найбольшы ядзерны арсенал, раней за ўсіх пачалі асвойваць ядзерную зброю і больш за ўсіх праводзілі ядзерныя выпрабаванні, павінны несці асаблівую адказнасць. Яны першымі павінны абмежаваць сваю дзейнасць па развіццю гэтага віда зброі, адмовіцца ад палітыкі запалохвання, прадоўжыць буйнамаштабнае скарачэнне ядзерных запасаў і тым самым стварыць умовы для далучэння іншых дзяржаў да працэсу ядзернага раззбраення.

**Белінфарм.**

## *Незвычайны ракурс*



### З рота тырчала качка...

Тры гадзіны "ваяваў" польскі рыбак Эдвард Сучоскі з гіганцкім сомам, які трапіў яму на кручок. Калі ж рыбіну ўдалося выцягнуць на бераг, яе даўжыня аказалася больш як 195 сантыметраў, а ў роце ў яе тырчала нядаўна схопленая качка. Увогуле польскі раён Мазуры, дзе размешчана шмат прыгожых азёр, ужо даўно прываблівае да сябе азартных рыбакоў. Рэкордам жа гэтых месц у свой час стаў сом даўжынёй 2,5 метра і вагой 70 кілаграмаў.

❑ *Удача рыбака.*

## *Эўрыка!*

### Роды пасля... смерці

**Здаровае дзіця дасталі з дапамогай кесарава сячэння з цела нежывой цяжарнай жанчыны, жыццёвыя функцыі якой штучна падтрымліваліся на працягу чатырох месяцаў.**

Хлопчык нарадзіўся на 4 месяцы раней тэрміну. Яго 28-гадовая маці была смяротна паранена на 17-м тыдні цяжарнасці. Група ўрачоў з Окленда (ЗША) увесь час бесперапынна назіралі за развіццём плода, а затым правялі штучныя роды.

### Рухавік-гібрыд

**Шведская кампанія "Вольва" распрацавала поўнаразмерны "Седан" з гібрыдным рухавіком, у якім для зарадкі нікель-кадміевых акумулятараў выкарыстана газавая турбіна.**

Новы аўтамабіль можа развіваць хуткасць да 160 кіламетраў у гадзіну, прабягае без дазапраўкі 670 км, рухаючыся з хуткасцю 90 км у гадзіну, расходуе на 100 км толькі 5,2 літра паліва. Электрарухавік "Вольва" магутнасцю 95 конскіх сіл прызначаны для язды па горадзе, а газавая або дызельная турбіна — на хуткасных аўтамагістралях.

### Імгненныя здымкі

**Адна з англійскіх фірм пачала серыйны выпуск самага кампактнага ў свеце фотаапарата імгненных здымкаў "Віжн".**

Ён даволі складанай канструкцыі і мае з тыльнага боку акенца, праз якое можна назіраць за працэсам праяўлення фотаздымка. Кампактнасць апарата "Віжн" дасягнута за кошт замены сямі інтэгральных мікрасхем на адзін мікракантралёр. "Віжн" забяспечаны інфрачырвоным дальнамерам механізму наводкі на рэзкасць і аптымальнага часу вытрымкі.

### Штучнае вока

**Спецыяльнае прыстасаванне, якое здольна адрозніваць форму і абрысы прадметаў па прынцыпу дзеяння чалавечага вока, распрацавалі сумесна англійскія і японскія спецыялісты.**

Выкарыстанне аптычных працэсараў з нейроннымі прынцыпамі дзеяння дазволіла стварыць аптычны прыбор, які настроены на самаабучэнне і па сваіх здольнасцях намнога пераўзыходзіць сродкі машыннага зроку сучасных робатаў.

Месца прымянення новага прыстасавання — аўтаматызаваныя зборачныя лініі і рухомыя аўтаматычныя транспартныя сродкі.

## Лесбийская любовь в Америке: "розовое" наступление

**"Про это" в Америке всегда говорили довольно свободно. Хотя от такой открытости число "секс-консерваторов" на просторах Соединенных Штатов не слишком-то уменьшалось. Большинство и сейчас предпочитает старую добрую разнополую любовь, обзаведение семьей, словом, хочет "плодиться и размножаться", как того требует Господь Бог. Впрочем, у определенного числа американцев склонности несколько иные.**

Примерно 5 процентов населения страны (это около 14 миллионов человек) составляет сейчас "гей-община", или, попросту говоря, гомосексуалисты. К "розовым" — лесбиянкам, отдающим предпочтение отношениям с собственным полом, относят себя 2,5 миллиона американских женщин. В отличие от "голубых", о проблемах которых разговор в Америке идет довольно давно, "розовые" до недавнего времени были в тени. В последние месяцы, особенно после прихода к власти демократической администрации Клинтона, они все чаще заявляют о себе.

Гомосексуалы при новом президенте вообще оживились. Отмена запрета на службу "голубых" в вооруженных силах здорово взбодрила не только тех, кто предпочитает прелести мужской дружбы изменчивым пристрастиям противоположного пола, но и "отщепенок", в ком гордое слово" мужчина" никогда не вызывало никаких эротических эмоций. Ведь американские "розовые" относятся к "голубым" с изрядной долей сочувствия: проблемы у представителей обоих "нежных" цветов довольно схожие. Да и сами "розовые" (или "радикальные феминистки", как их стыдливо именовали до недавних пор) пока еще не разобрались толком, что они из себя представляют: то ли женскую часть гомосексуального движения, то ли лесбийскую часть движения женского? Во всяком случае, таково мнение Тори Осборн, возглавляющей Национальное объединение гомосексуалистов и лесбиянок в Вашингтоне.

В июне "дамы, предпочитающие дам", впервые в американской истории прошествовали под радужным семицветным флагом (знамя гомосексуалов обоего пола) по улицам Вашингтона. Чего они требовали? Примерно того же, чего не так давно добивались их "коллеги" из "голубого" лагеря: признания своего права на существование, на собственные склонности, которые многим кажутся причудами или даже развращенностью пресытившихся "обычной" любовью людей. По мнению американских "розовых", любовь женщины к женщине — такая же реальность, как и любовь "разнополая". И эту мысль они с завидным упорством пытаются вбить в головы общества. Помимо борьбы за собственные права лесбиянки занимаются финансированием (в пределах возможностей их не очень многочисленных организаций) разных проектов, связанных с борьбой против СПИДа и раковых заболеваний. В отличие от "чумы XX века", которая по понятным причинам угрожает "чистым" лесбиянкам куда меньше, чем их "нормальным" соотечественницам, онкологические болезни, особенно рак молочной железы, — бич американских "розовых".

Секс-меньшинства медленно, но верно пробивают себе дорогу к средствам массовой информации. Помимо специализированных изданий, люди с гомосексуальной ориентацией появились и в передачах крупных американских телекомпаний, чего несколько лет назад и представить было невозможно. "Хотя все знают, что в шоу-бизнесе и киноиндустрии хватает гомосексуалистов и лесбиянок, но до сих пор этот факт предпочитали не афишировать", — отмечает журнал "Ньюсуик". Поэтому появление на телеэкране Ли Де Лариа, комической актрисы, не скрывающей своей гомосексуальной ориентации, стало, в общем-то, из ряда вон выходящим событием. Впрочем, вскоре подобные "события" последовали одно за другим. В частности, в конце весны немало шума наделало назначение некой Роберты Ахтенберг на пост помощника секретаря по вопросам строительства и развития городов. Г-жа Ахтенберг стала первым человеком, не скрывающим своей гомосексуальной ориентации, получившим пост в американской администрации, пусть и не очень высокий. Замелькали в прессе и сообщения о гомосексуальных браках не только среди мужчин, но и среди женщин. 33-летняя Эйлин Раковер и ее, как бы это помягче, подруга не только создали довольно дружную "семью", но и при помощи искусственного осеменения забеременели и родили каждая по ребенку. Одним словом, фантазии авторов некогда популярной комедии "Новые амазонки" становятся реальностью... Конечно, дети, рожденные в такой "семье", получают довольно своеобразное воспитание. Это, в частности, служит одним из аргументов "замшелых консерваторов", протестующих против гомосексуальных браков. Другой аргумент — распространение бисексуальности, когда, например, девочки-подростки, которые учатся в "однополых" (с раздельным обучением) школах и колледжах, проявляют "розовые" наклонности; но позднее, начав более активно общаться с противоположным полом, забывают о прелестях слишком уж нежной девичьей дружбы и становятся "нормальными" женщинами без всяких гомосексуальных поползновений. Основываясь на таких фактах, американские "секс-традиционалисты" и утверждают, что вся эта "фантазия в розово-голубых тонах" есть лишь плод человеческой распущенности и развращенности.

Как говорится, кто виноват, кто прав в столь деликатном вопросе — судить не нам. Тем более что и медики до сих пор не дали абсолютно точного ответа на вопрос о природе гомосексуальности (хотя в печати и мелькали сообщения о том, что "ген гомосексуальности" найден). Глупо и неправильно было бы, наверное, лишь одно: закрыть глаза на то, что, несмотря на чьи-либо желания, все равно существует в мире. Жизнь есть жизнь, и человек все-таки человек даже тогда, когда его мысли, поступки и поведение шокируют остальных.

**Ярослав ШИМОВ** — *по материалам "Ньюсуик" и "Ю.С.ньюс..." (США).*

## *Человек—человеку*

### Подумаем о себе и о тех, кто рядом с нами

"Не презирайте ни одного из малых сих..." — сказано в Святом Евангелии.

Кто же они — эти малые? Немощные, больные, старики, дети-сироты и инвалиды. Следуя этому высокому нравственному принципу, главным смыслом христианской жизни являются дела милосердия, служение своему ближнему, забота о страдающих людях.

На востоке нашей столицы, в одном из живописнейших уголков Минска, при общине храма-памятника в честь Всех Святых, в память безвинно убиенных во Отечестве нашем на старинном Староборисовском тракте создается Дом Милосердия. Сюда будут приниматься одинокие и пожилые люди, а также сироты и дети-инвалиды, для которых откроется специальная школа.

Дом Милосердия мыслится как большая христианская семья, где все будут помогать друг другу: дети — старикам, скрашивая их одинокую старость, старики — детям, поддерживая их в несении тяжелого креста сиротства и болезней. Для выполнения этой высокой гуманной цели нужны средства.

По просьбе православной общины храма-памятника в честь Всех Святых исполком Минского городского Совета народных депутатов проводит благотворительный телеаукцион. На нем выставляются право на строительство на земельных участках в Минске коттеджей, офисов, подземных и наземных автостоянок, магазинов, а также аренда подвальных помещений, мест под торговые точки и партии товаров народного потребления.

**Аукцион состоится 13 октября сего года в 17.00 в актовом зале Республиканской художественной галереи в Минске по ул. Козлова, 3.**

Телефоны для справок: 34-15-30; 63-66-67; 69-97-56.

Просим организации и частных лиц принять участие в телеаукционе.

## *Советы доктора Куреннова*

### Чтобы не стареть

Для того, чтобы чувствовать себя всегда бодрым, энергичным и жизнерадостным, надо постоянно очищать организм от шлаков и следить, чтобы обмен веществ в нем был правильным, чтобы не накапливались соли, шлаки. В этом уверяют нас как старые русские лекари, так и современные врачи.

Лучшим средством для налаживания обмена "Лечебник" предлагает морскую капусту. Она является, кстати, составной частью многих лекарств, изготовляемых китайскими фармацевтами. Морская капуста сушеная, консервированная — очень хорошая приправа к любой еде.

Для очищения организма лекари народной медицины советовали больным принимать полевой хвощ. Высушенный и мелконарезанный хвощ заваривается и его пьют как чай. Ими же всегда ценились и березовые почки. Если нет почек, то с таким же успехом применяли отвар молодых листьев (10 граммов на 1 стакан воды) и сок березы.

Считалось, что почки, листья, сок имеют свойство благотворно влиять на обмен веществ, удалять из организма всякий балласт и вредные вещества. А это всегда приводит к омоложению организма. Лучше начинают работать все его органы, разглаживаются морщины, появляется молодой блеск в глазах, более энергичной становится походка, восстанавливается четкость мысли.

## *Інтымная тэма*

## Нявіннасць — у "чырвоную кнігу" ці ў "чорны спіс"?

**"Прашу цябе, — сказала мне аднойчы сяброўка, — не кажы нашым знаёмым, што я да гэтай пары нявінная..."**

**Наталля БЕРАЗОЎСКАЯ**

Чаму зараз цнатлівасць карыстаецца дурной славай сярод моладзі?

Чаму большасць маладых людзей лічаць яе нейкай хваробай і хутка жадаюць прайсці неабходны курс вылячэння?

Ва ўсе ж часы нявіннасць была ў павазе і з'ўлялася гонарам юнакоў і дзяўчат. І заўжды яны маглі стрымліваць свае пачуцці, якія звычайна ўзнікаюць у перыяд палавога сталення.

Так, сённяшнія маладыя людзі апынуліся ў іншых умовах жыцця. Большасць з іх сталелі ў свеце, дзе ім падаюцца "ўрокі маралі" ўжо перад тым, як уступіць у "дарослае жыццё". Нярэдка дзеці выхоўваюцца ў няпоўных сем'ях і з малых гадоў становяцца сведкамі паводзін сваіх адзінокіх маці, іх начных наведвальнікаў, якія прыходзяць, калі "ўсходзіць месяц", а знікаюць чуць свет. Дзеці часам адкрыта назіраюць заняткі "каханнем".

А потым ледзь дзяўчынка пачынае адчуваць сябе дзяўчынай, зусім яшчэ няўклюдная, яна сустракаецца з шырока распаўсюджаным сярод моладзі меркаваннем: дзяўчына не ведае жыцця, пакуль не мела сувязі з мужчынам. Або: нявінная тая дзяўчына, якую ніхто не пажадаў...

А калі ўзяць, напрыклад, цяперашняе становішча, дарагоўлю, калі амаль ніхто не жадае працаваць на дзяржаву за трыццаць тысяч, усім вядома, што гэтых грошай хопіць усяго на некалькі дзён... Дык навошта аддаваць свае сілы невядома дзеля чаго, калі лягчэй якой-небудзь малалетняй жанчынцы, пазнаўшай "каханне", адзін-два разы ў тыдзень наведаць нумар гасцініцы, дзе напояць і накормяць ды яшчэ "на жыццё" дадуць? Ці мець зносіны нават з "пякучым брунетам", які расказвае казкі пра каханне на каўказскім дыялекце, абы менш запатрабавала. У адносінах да гэтага ў моладзі сталі ўжо хадзячымі выразы: "на працу", "за заробкам".

І ўсё ж, пад націскам якіх умоў большасць маладых людзей расквітаецца са сваёй нявіннасцю, не ўступіўшы ў шлюб?

Я паспрабавала пагутарыць пра гэта з некаторымі прадстаўнікамі "новага пакалення". І многім з іх давялося добра паднапружыць сваю памяць, каб успомніць пра гады "нявіннасці".

Размаўляючы са сваімі знаёмымі, я даведалася, што дзяўчаты часцей за ўсё расквітваюцца з нявіннасцю пад уздзеяннем сваіх сяброўак. Ім становіцца цікава, як "гэта" атрымаецца ў іх саміх, бо, па словах сяброўак, "гэта" ўсё не так і дрэнна. Хаця, як высветлілася, большасць з іх займаецца "каханнем" абы займацца, нічога не разумеючы, бо, каб стаць сапраўднай жанчынай, патрэбна даволі шмат якіх умоў. Некаторыя баяцца быць згвалтаванымі абы кім і выбіраюць іншы шлях — хай "першым" будзе добры чалавек, а потым усё стане на свае месцы. Безумоўна, у некаторых атрымліваецца і так, што "першы" становіцца апошнім і на ўсё жыццё. Але гэта даволі складана.

А вось у хлопцаў справы складваюцца інакш. У большасці мне вядомых выпадкаў ім упершыню даводзілася "мець справу" з жанчынамі замужнімі, і розніца ва ўзросце была даволі адчувальнай. Да многіх "шчасце" прыходзіла "па чарзе". Некаторым, каму пашанцавала, — і па каханню.

Але асноўнай мэтай маёй размовы было не тое, як хто зрабіў "арэвуар" сваёй нявіннасці. Я жадала паслухаць тых, хто да дваццаці і болей гадоў застаўся цнатлівым і як да гэтага ставяцца маладыя юнакі і дзяўчаты.

Таня А., 22 гады:

— Я да гэтых гадоў захавала нявіннасць і ніколькі не шкадую. Я б магла з ёю ўжо даўно развітацца. І вельмі добра, што мне невядомы ні цяжарнасць, ні хваробы. А ў адносінах з хлопцамі адразу разумееш, каму сапраўды патрэбна ты, а каму нешта ад цябе. Апошнія доўга не затрымліваюцца, ідуць шукаць чарговую "каханую". І спадарожнага ім ветру. А маё ад мяне не ўцячэ.

Іра М., 21 год:

— Яшчэ з гадоў шаснаццаці я паставіла сабе за мэту: першы будзе выключна каханы ці хай наогул яго не існуе. Так і чакаю да цяперашняга часу.

На жаль, хлопцаў, пасля паўналецця захаваўшых сваю цнатлівасць, мне сустрэць сярод маіх знаёмых не давялося. Ці, можа, саромеюцца пра гэта казаць, бо кожны ўжо лічыць сябе мужчынам. А адносіны іх да дзявочай нявіннасці даволі цікавыя. Адны ставяцца да гэтага абыякава, а другія мяркуюць наступным чынам.

Андрэй Ч., 23 гады, здзівіўшыся майму пытанню, адказаў:

— Няўжо яшчэ існуюць такія? Яна або вельмі маладая, або святоша. Каб я такую сустрэў, то перш за ўсё пераканаўся б сам у гэтым, а потым, безумоўна, ажаніўся.

— А калі не кахаеш?

— Што з таго, я не дзеля кахання жанюся, а дзеля жыцця. Але, хто ведае, можа здарыцца і так, што яна паспрабуе, ёй спадабаецца і пойдзе далей, не спыніўшыся на дасягнутым.

Валерый А., 24 гады, выказаў наступнае меркаванне:

— Па праўдзе кажучы, у мяне да нявінніц пасля дваццаці адносіны нейкія адваротныя. Калі я пра такую даведваюся, дык мне здаецца, што ёй ніхто не патрэбны і яна займалася сама з сабою нечым вельмі непрывабным. І наогул, лепей мець справу са свядомай жанчынай. А калі здарыцца так, што я пакахаю, мне будзе ўсё роўна, колькі там было да мяне, галоўнае, каб я ведаў, што зараз у яе я адзіны.

Як бачым, існуюць розныя думкі на гэты конт. І тут прыведзены далёка не ўсе.

А меркаванні старэйшага пакалення і адносіны рэлігіі да страты нявіннасці не ў шлюбе я не выпадкова не прыводзіла. Бо ўсім вядома, што адны скажуць: "У наш час такога не было" і махнуць рукой, маўляў, рабіце, што хочаце, усё роўна нікога не слухаеце. А другія прапануюць біблейскую цытату: "Блуднік грашыць супраць уласнага цела".

І ўсе па-свойму будуць правыя.

Я ў сваю чаргу скажу: зрабіце свой асабісты выбар. Парады ў такіх справах недарэчныя...

## *Вам збіраюцца паказаць...*

### "А ў Расіі зноў акаянныя дні"

**Гэты каляровы мастацкі фільм вытворчасці майстроў Маскоўскага кінааб'яднання "Камера" (аўтар сцэнарыя — Эдуард Валадарскі пры ўдзеле Аляксандра Міты, рэжысёр-пастаноўшчык — Уладзімір Васількоў).**

... 1948 год. На тэрыторыі лагера, абцягнутай калючым дротам, праходзіць цяжкае жыццё зняволеных. Тут і няшчасныя маўклівыя зэкі, тэрарызуемыя не толькі ахоўнікамі, але і крымінальнікамі; і зэкі прывілеяваныя, накшталт мастака па мянушцы Леанарда, які, не спяшаючыся, піша па заказу начальства палатно з партрэтам Сталіна... І раптам навіна, якая ўскалыхнула размераную хаду лагерных падзей: дачка начальніка "зоны", Саша Бурдзіна, чакае дзіця ад зняволенага Вадзіма Воінава! Ахова і начальнікі ў лютасці...

Галоўныя ролі выконваюць Яўген Беланогаў, Таццяна Іпатава, Міхаіл Іваноў, Генадзь Вянгераў і іншыя.

### "Павук"

**... Юная дзяўчына Віта жыве ў сучасным горадзе. Лад яе жыцця даволі аднастайны — гімназія, дом, сябры, царкоўны хор...**

Але вось у лёсе дзяўчыны паяўляецца Мастак. У майстэрні маэстра чуллівы свет яго твораў палохае Віту і адначасова абуджае ў ёй яшчэ неўсвядомленую сексуальнасць. Эратычныя ўяўленні дзяўчыны прымаюць форму надакучлівага кашмару, яна пачынае бачыць у Мастаку страшэннага монстра... А пра тое, як развіваюцца падзеі далей, гледачы даведаюцца, паглядзеўшы захапляючую каляровую мастацкую кінастужку "Павук", створаную кінамайстрамі рыжскай кінастудыі "Дэкрым". Сцэнарый карціны напісаў В.Кайякс, а паставіў яе рэжысёр П.Мас.

Цікава праводзяць ролі галоўных герояў у фільме Аурэлія Анужытэ і Любамірас Лаўцявічус.

### "Чандні"

**Карціна створана кінамайстрамі Індыі. Аўтары сцэнарыя — Калма Чандра, Умеш Калбагх і Арон Каул, рэжысёр — Яш Чопра.**

Чандні — улюбёнка сям'і сваёй сяброўкі: яе прыгажосць, абаяльнасць, вясёлы, жыццярадасны характар прываблІваюць да сябе людзей. Не застаўся раўнадушным да яе і брат сяброўкі — Рохіт. Аднак у гэтым багатым доме Чандні хочуць бачыць толькі як госцю, але не як нявестку. Даведаўшыся пра намер Рохіта жаніцца на Чандні, яго сваякі рэзка мяняюць свае адносіны да яе. Тым не менш Рохіт не жадае адмаўляцца ад каханай...

У фільме здымаліся Шрыдэві, Вінод Кхана, Рышы Капур, Вахіда Рэман.

❑ *Кадр з фільма "Чандні".*

